№ 9(62) • СНЕЖАНЬ 2014

ЮБИЛЕЙКА

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ









# ЗАБЛАКАВАЛІ ТВОЙ ЛЮБІМЫ САЙТ?

## Зрабі 2 клікі



У сувязі з блакаваннем шэрагу сайтаў я сутыкнуўся з праблемай, як жа мне зручней чытаць навіны на Хартыі і naviny.by, якія гляджу штодня і па некалькі разоў.

Сыходныя дадзеныя:

Карыстаюся **mozilla firefox**. Навіны праглядаю ў рэжыме rss-стужкі. Яны ў мяне акуратна адна за адной пашыхтаваныя на паліцы закладак. Клікаю толькі на тыя загалоўкі, якія мне цікавыя. Так я не марную час на адкрыццё сайту, гартанне старонак.

Хоць маю браўзер Tor, яго часам лянота запускаць для прагляду толькі пары стужак. На кампе стаіць і Opera (для яе карыстальнікаў усё проста – рэжым "turbo").

Таму пачаў шукаць дадатак-ананімайзер, які б карэктна працаваў з маёй мазілай.

Пратэсціраваў тыя, што прапанаваў tut.by у гэтай навіне: http://42.tut.by/429333.

1. Hola нават не захацела ўсталёўвацца – тыпу ў мяне браўзер састарэў (неаднаразова сутыкаўся з такой абвесткай, відаць, з-за беларускай мовы ў браўзеры).

2. Hide My Ass – усталявалася, але нічога не адчыняе. Выдаліў.

3. **ZenMate** – усталявалася. І скажу адразу – гэта мой канчатковы выбар!

Адразу адчыніліся ўсе мае rss-стужкі. Старонкі Хартыі і іншых блакаваных сайтаў адчыняюцца без затрымкі, як па звычайным падлучэнні. Праверана на Белпартызане, Салідарнасці, Naviny.by, prokopovi.ch.

У **ZenMate** ёсць магчымасць выбраць краіну, у якой вы як бы сядзіце :)

Ёсць магчымасць у 2 клікі адключыць плагін і уключыць яго па-новай.

Сацыяльная сетка "Укантакце" пасля ўсталёўкі ананімайзера моцна здзівілася, што я знаходжуся ў Нямеччыне і папрасіла мяне увесці нумар тэлефона. Ну, ок :) Фэйсбук прамаўчаў і проста адчыніў маю старонку.

Ніякіх іншых памылак пакуль не знайшоў, таму настойліва рэкамендую ставіць.

Спампаваць **ZenMate** можна тут: https://zenmate.com. Або знайсці яго праз пошук у паліцы дадаткаў вашага браўзера. ZenMate можна ўсталяваць на Chrome, Firefox, Opera і Android.

Я не настойваю, каб вы выкарыстоўвалі менавіта гэты спосаб заставацца ў курсе падзей. Я проста вырашыў падзяліцца з вамі сваім досведам у абыходзе блакіроўкі. Але, думаю, калі вы чытаеце гэты тэкст, вас не трэба пераконваць, наколькі важна мець доступ да інфармацыі. І наколькі агідна цэнзура.

Заставайцеся на сувязі з рэальнасцю!

**Дзмітрый ШЫМАНСКІ**

# КВАТЭРНІК “УСЕ ТУТ”

## прайшоў з песнямі, вершамі і юбілеем АРР “Дзедзіч”

30 лістапада берасцейскі праект “Я быў тут” развітаўся з восенню выніковай сустрэчай “Усе тут”. На адмысловым кватэрніку можна было пачуць песні пад гітару, вершы ад гасцей імпрэзы, беларускую мову, гісторыкаў, планы на будучыню і сустрэць берасцейскае мастацтва.




Імпрэза “Усе тут” адзначылася падзеяй – 15 год АРР “Дзедзіч”. Атрымаўся яшчэ і сапраўдны юбілейны Дзень народзінаў у цёплай кампаніі сяброў: берасцейскія музыкі The Fraiz, модныя курсы беларускай мовы “Мова Нанова” і вершы на Савецкай у выглядзе Юліі Козел.

Зміцер Шыманскі, кіраўнік АРР “Дзедзіч”, адкрыў маленькую тайну: хутка стартуе Школа валанцёраў. Зміцер заўважыў, што ў Берасці ёсць шмат грамадскіх арганізацый, якім патрэбна валанцёрская дапамога (напрыклад, Таварыства аховы беспрытульных жывёл, Чырвоны крыж, экалагічныя арганізацыі і г. д.). З. Шыманскі кажа, што існуе шмат актыўнай моладзі, якая не ведае, якім чынам рэалізаваць сябе, знайсці нейкую цікавую актыўнасць за сценамі школы ці ўніверсітэту.

**САМЫЯ ЯСКРАВЫЯ МОМАНТЫ ПРАЕКТУ**

Першае месца – гістарычным дзеячам і галоўным героям праекту: **Мікалай Радзівіл Чорны, Вітаўт, Ягайла, Саламон Грынберг, Юліян Урсын Нямцэвіч**. Героі некаторы час “пажылі” на берасцейскіх вуліцах і нагадалі сучасным жыхарам Берасця пра свае значныя постаці ў гісторыі.

Мастацкі вобраз праекту “Я быў тут” надала маладая і таленавітая берасцейская мастачка і дызайнер – **Вольга Стрыжнёва**.

Дызайнерка праекту падзялілася, што не ведала нічога пра Саламона Грынберга і яго аптэку. Таксама Воля заўважыла, што трэба больш праектаў з легендамі, гісторыямі не пра Беларусь цалкам, а капнуць глыбей у гісторыю.

Трэцяя значная падзея – **інтэрактыўная гульня “Файна! Родна! Годна!”.** Удзельнікі каманд праходзілі па трох маршрутах, рабілі фота- і відэа-сэлфі, спрабавалі быць сапраўднымі акторамі і распавядалі прахожым пра гістарычныя падзеі. Усе заданні гульні былі звязаны з гісторыяй Берасця.

Фотаздымкі рабілі пад час інтэрактыўнай гульні і напрацягу праекту, з хэштэгам #byutut.

Пра ідэю праекту распавядае Алена Каховіч, адна з удзельніц каманды:

– Праект атрымаўся, дзякуючы школе мэнэджэраў “Акадэмія Першых – 2014”. Сэнс школы заключаецца ў тым, што напрацягу навучання вучні распрацоўваюць праект і яго ідэю. Самыя лепшыя працы, у межах Акадэміі, рэалізуюцца ў розных гарадах Беларусі.

**ПРА ВЫНІКІ ПРАЕКТУ “Я БЫЎ ТУТ”:**

– Берасцейцы кажуць, што файная ідэя ладзіць такія праекты. Хтосьці адзначыў, што адабраныя асобы для праекту і так знакамітыя, напрыклад Радзівіл Чорны ці Вітаўт. Дзеячы вызначаны на помніку тысячагоддзя.

Алена прыняла адмоўны прыклад наконт “знакамітасці” герояў праекту. Па словах дзяўчыны праводзілася даследванне гісторыка-культурнай кампаніяй “Берасце старадаўняе”, з якога атрымалася, што пазнаць Радзівіла Чорнага на помніку тысячагоддзя змаглі толькі 15 чалавек. Алена лічыць, што ніколі не будзе лішнім нагадаць берасцейцам пра гістарычных асоб.




**Лепшае «сэлфі» ад удзельнікаў праекта**

**ПРА ЗАДАЧЫ ПРАЕКТУ:**

– Мы хацелі даць галоўную інфармацыю пра гістарычных дзеячаў берасцейцам. А далей, ужо самастойна, людзі займаліся бы мінідаследваннем па прыведзяных тэмах. У афіцыйнай суполцы “Я быў тут” мы распавядаем не толькі пра выбраныя постаці, але і закранаем іншыя значныя асобы для Берасця.

Другой задачай праекта было распавесці пра культурныя суполкі горада. Напрыклад, Мова Нанова, Вершы на Савецкай.

Напрыканцы гутаркі Алена дадала, што па вясне берасцейцаў чакае штосьці падобнае да праекту “Я быў тут”, але больш маштабнае.

У СМІ было шмат як станоўчых, так і адмоўных водгукаў наконт месца знаходжання выяў гістарычных асоб. Каардынатары праекту кажуць:

– Мы адмыслова расклейвалі выявы асоб на гістарычных будынках і месцах, якія ў хуткім часе будуць зруйнаваны. Напрыклад, дом на рагу вуліц Дзяржынскага і 17 верасня (каля рэдакцыі Брэсцкага кур’ера), які шмат гадоў стаіць у занядбаным стане на цэнтральнай вуліцы. Гэта сур’ёзная праблема для горада. Таму, такой формай, магчыма не вельмі візуальна прывабнай, хацелі прыцягнуць увагу да праблемы.

**Наталля ГАРАЙКІНА**



# АВТОСТОПОМ ПО ЕВРОПЕ

Лекцию с таким названием провела волонтёр «Дзедзича» Татьяна Гендель.

17 декабря прошла открытая лекция опытной путешественницы и волонтёра АРР «Дзедзіч» Тани Гендель.




Неоднократно на нашем сайте Таня публиковала отчёты о своих путешествиях, в которых можно было познакомиться с необычными уголками мира.

Недавно она совершила путешествие по Европе, о чём и поспешила рассказать в своей лекции. Слушатели узнали как можно с минимальными затратами посетить несколько стран Европы и как помогла им флейта попробовать баварские сосиски.

**– Что побуждает тебя путешествовать?**

– В первую очередь всегда хотелось лучше изучить наш мир, в каждой стране и в каждом городе я открываю что-то новое. Ну и конечно путешествия помогают познать саму себя через мир.

**Какие основные препятствия тебе приходится преодолевать в пути и в организации путешествия?**

– В большинстве это самое простое: плохая погода, нехватка нужного количества денежных средств. Ну и часто возникает проблема найти попутчика. Наверно это самое проблематичное.



**Какое путешествие было самым бюджетным?**

– Я ехала в Молдову с 10 долларами в кармане. Но мы с подругой взяли гитару которая нам очень помогла и благодаря ей мы заработали сумму которую могли потратить на наши нужды. И я приехала домой даже с 14 долларами :)

**Какая самая заветная страна в которую ты бы хотела попасть?**

– Новая Зеландия. Очень далеко, очень неизведанна и очень сложно получить визу. По этим же причинам хотелось бы посетить Австралию и США.

**Что бы ты пожелала тем, кто только собирается в путешествие.**

– Собраться и не откладывать в долгий ящик, так можно совсем никуда не поехать. На самом деле это не так сложно как вы думаете.

**dzedzich.org**

# СВЯТКУЕМ НОВЫ 2015 ГОД, ЯК СТО ГАДОЎ ТАМУ!

Шчыра запрашаем ўсіх разам адсвяткаваць Новы, БЕЛАРУСКІ 2015 год у атмасферы 100-гадовай даўніны!

Сёння на свята мала дзе можна адчуць сапраўдную беларускую атмасферу. А ў каго ні запытаеш, калі ўсё ж-такі быў сапраўдны беларускі Новы год, усе кажуць “100 год таму”, “адчапіся, 100 гадоў ужо пасля гэтага прайшло”. Сто, дык сто!

Мы вырашылі адмятаць час і стварыць атмасферу беларускага Новага году ў стылі пачатку XX стагоддзя. Адчуць стогадовую даўніну нам дапаможа вёска Залессе, дзе мы будуем Дом Еўрапейскіх сустрэч. Там захавалася ўсё як 100 год таму: брукаванка, аўтэнтычныя вясковыя хаты, мураваныя склепы і лядоўні і яшчэ шмат іншага. А сустракаць Новы год мы будзем у доме войта.

Вечарына будзе аформлена ў беларускім стылі, таму і вас просім адпавядаць гэтаму часу.

Каб зрабіць свята якасна і прыгожа, неабходна трошкі сучасных укладанняў: 300.000 бел. руб. + любая ваша хатняя страва да агульнага стала. У гэту суму ўваходзіць культурная праграма, антуражная ежа і напоі (паштэт, вэнджаныя вушы, капуста, грыбы, “пальцам пханыя” кілбаскі, кісель, і г.д.). Грошы трэба здаць арганізатарам да 20 снежня, каб мы паспелі ўсё падрыхтаваць!!!

ХТО: Моладзь, неабыякавая да беларускасці: сябры Дзедзіча, а таксама ўсе, хто нас ведае (ці хоча пазнаёміцца :).

ДЗЕ: Вёска Залессе, Камянецкі р-н. 50 км ад Берасця. Дом яшчэ не да канца адбудаваны, але ўсе ўмовы ёсць :) Глядзіце фотаальбом.

КАЛІ: Заезд 31 снежня ў 12-00. Ад'езд – 1 студзеня ў 19-00.



ЯК: 1. Прыязджаем, размяшчаемся, знаёмімся. 2. Аздабляем ялінку, упрыгожваем хату, гуляем у гульні беларускай шляхты, таньчым, адпачываем. 3. Накрываем на стол, падымаем чаркі і сустракаем свята!

За дадатковы кошт (прыкладна 100.000 руб.) будзем пры патрэбе арганізоўваць праезд да Залесся і назад.

Месцазнаходжанне: 64, Залессе, Воўчын

Пачатак: 31 снежня а 12:00

Суполка vk.com: vk.com/novy_2015_1915_god

**dzedzich.org**

# ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО КОЛЛЕКТИВА ТЕАТРА КУКОЛ

## Председателю Брестского обисполкома К.А. Сумару!




Уважаемый Константин Андреевич!

Мы знаем и ценим Ваше внимание за ходом реконструкции здания Брестского театра кукол, Ваше намерение ввести его в строй в 2015 г. Но само здание без полноценной художественной, творческой составляющей еще не театр.

Организатором и душой этого процесса на протяжении многих лет был М.А.Шавель. Наши успехи, всемирная известность театра, который стал узнаваемым брендом Беларуси, прославили наш город, это и его заслуга. Он воспитал труппу, заботился о ее совершенствовании, приглашал ведущих белорусских и зарубежных режиссеров. Это принесло театру славу, огромное количество самых престижных призов.

Но у М.А.Шавеля есть один «недостаток» -- ему исполнилось 65 лет и по нашим неписаным законам он, вроде бы, не может быть директором театра. Но ведь возраст художественного руководителя не регламентирован и М.А.Шавель может быть им столько, сколько хватит сил. Об этом в беседе с ним сказал и начальник главного управления идеологической работы А.А. Мурашкин.

И вот сейчас мы с тревогой и непониманием узнаём, что на должность директора и художественного руководителя согласована кандидатура человека, который никогда не был в нашем театре, не знает, как открываются его двери и не видел ни одного из наших спектаклей! Общее руководство культурой и практическая работа -- разные вещи. А тем более, чтобы руководить художественной жизнью коллектива, надо иметь опыт, который приходит только с годами.




Мы считаем, что такое решение нанесёт непоправимый вред театру, и к переезду в новое здание нам останется только вспоминать о прошлых успехах.

Уважаемый Константин Андреевич! Мы верим в Ваше искреннее желание сохранить и умножить славу Брестского театра кукол. Опыт и авторитет М.А.Шавеля в театральных кругах не только Беларуси, но и многих стран мира, где мы участвовали и побеждали на Международных фестивалях, может способствовать этому.

Просим Константина Андреевича встретиться с коллективом нашего театра.




**Міхаіл Шавель**

**АД РЭДАКЦЫІ:**



Мы папрасілі кіраўніка абласной арганізацыі Партыі БНФ **Дзмітрыя Шыманскага** даць свой каментар адносна звальнення дырэктара Берасцейскага тэатра лялек Міхаіла Шавеля:

*– Словы пра тое, што дырэктарам і мастацкім кіраўніком тэатра ставяць чалавека, які ніколі ў ім не быў - выклікаюць проста шок! Пасля гэтага я нават не здзіўлюся, калі акажацца, што новы дырэктар апошні раз бачыў лялечны спектакль гадоў 30 таму, у дзяцінстве.*

*Магчыма, для адміністрацыйнай працы сапраўды больш падыходзяць маладыя, энергічныя і з карыснымі «сувязямі» у кабінетах, як кажуць. Так для фінансавага стану тэатра будзе лепей.*

*Але для арганізацыі мастацкага працэсу патрэбны зусім іншыя якасці. І знаёмствы патрэбныя ужо не ў берасцейскіх кабінетах, а сярод тэатральнай эліты свету: каб запрашаць лепшых рэжысёраў, кампазітараў, каб выязджаць на лепшыя фестывалі еўрапейскага і сусветнага ўзроўню.*

*Маё меркаванне - патрэбна пераемнасць пакаленняў. Патрэбна перадача досведу, тых жа міжнародных кантактаў, паступовыя ўводзіны новага кіраўніка ва усе нюансы мастацкага працэсу. Таму сапраўды, як пішуць аўтары ліста, самым мудрым, узважаным і дальнабачным рашэннем было б раздзяліць адміністрацыйныя і мастацкія функцыі і пакінуць Міхал Саныча на пасадзе мастацкага кіраўніка.*

*Мая старэйшая дачка перагледзела бадай што ўвесь рэпертуар Берасцейскага тэатра лялек. І я заўсёды ганарыўся тым, што яна глядзіць спектаклі не нейкага правінцыйнага ўзроўню, а тыя пастаноўкі, якія атрымлівалі гран-пры ў змаганні з лепшымі лялечнымі тэатрамі свету! І заўсёды радаваўся за наш тэатр, калі ў навінах у чарговы раз чуў пра яго новыя дасягненні на міжнароднай арэне.*

*Баюся, без Міхал Саныча ў навінах я пачую пра наш тэатр толькі яшчэ адзін раз - пра адкрыццё новага будынку. У чым немалая заслуга менавіта спадара Шавеля. І без якога гэты будынак маёй дачцэ, відаць, будзе ўжо непатрэбны!*



**ЮБІЛЕЙКА**

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

- **Заснавальнік** – Суполка "Усход-2" гарадской арганізацыі Партыі БНФ
- Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранага карыстання
- **Падпісана ў друк** 24.12.2014 года ў 14-00
- Папера афсетная, 0,5 ул.-друк. аркуша, фармат А4. **Гарнітура** Helios.
- Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі.
- **Наклад:** 299 асобнікаў.
- Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
- **Галоўны рэдактар:** Таццяна ГЕНДЗЕЛЬ
- **Рэдакцыйная калегія:** Наста ПАПЯЛОЎСКАЯ, Кірыл КАТОВІЧ, Ульяна ВЕНЦЭЛЬ.
- **Кантактны тэлефон: (029) 222-58-22, (029) 660-57-41.**
- **E-mail:** jubilejka@tut.by

**№9 (62) • СНЕЖАНЬ 2014**